# КРЫНІЦА

№2 Красавік, 2009

# БХД: НАШ АДКАЗ НА КРЫЗІС

**20-25 красавіка, пасьля Вялікадня, беларускія хрысьціянскія дэмакраты праводзяць першую маштабовую серыю акцыяў па ўсёй краіне: “НАШ АДКАЗ НА КРЫЗІС”.**

Мы з вамі бачым: жыцьцё робіцца горшым.

Зьбядненьне людзей, рост цэнаў, зьніжэньне заробкаў, дэвальвацыя, пагроза страціць працу ва ўмовах эканамічнага крызісу зараз хвалююць беларусаў найбольш. Сакавіцкая нацыянальная Рада БХД прыняла рашэньне: правесьці 20-25 красавіка за 6 дзён у кожным горадзе, дзе ёсьць БХД, сэрыю эканамічных, дабрачынных, палітычных акцыяў, каб давесьці да грамадзянаў Беларусі свае прапановы аб выйсьці з крызісу.

**АДКАЗ БХД ПРОСТЫ:**

1)ЭКАНОМІЯ – падчас крызісу дзяржава і мясцовыя ўлады павінныя скарачаць лішнія выдаткі (лядовыя палацы, АЭС, спэцслужбы, “Лініі Сталіна”, вялізныя гулянкі і да т.п.) Крызіс – гэта выклік прапагандзе рэжыму.

2)ДАБРАЧЫННАСЬЦЬ – больш заможныя беларусы падчас крызісу маюць магчымасьць дапамагчы найменьш абароненым: бедным, дзецям, інвалідам, сіротам. Крызіс – гэта выклік нам як вернікам: ці міласэрныя мы? ці любім бліжняга?

3)ЛІБЕРАЛІЗАЦЫЯ – зьніжэньне падаткаў, вызваленьне прадпрымальніцкай ініцыятывы, скарачэньне бюракратыі – і гарантыі недатыкальнасьці прыватнай уласнасьці.



**ШТО ВАРТА РАБІЦЬ**

- Дабрачынныя акцыі (перадача рэчаў, кнігаў, ахвяраваньняў дзіцячым дамам, інтэрнатам, хосьпісам, рэабілітацыйным цэнтрам)
- Раздача інфармацыйных матар'ялаў (плянуецца выпуск газэты "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя") – менскіх ці сваіх
- Пікеты ("Не АЭС у Беларусі!", "Не спойвайце нацыю – лепш пакарміце дзяцей!", "Грошы – не на АМАП, а на сіротаў!")
- Міжканфэсійныя сустрэчы ("Царква і эканамічны крызіс")
- Прэзэнтацыя эканамічнай праграмы БХД
- Сустрэчы зь незалежнымі бізнэсоўцамі, эканамістамі, палітыкамі
- Талокі (добры адказ на крызіс – згуртаваньне дзеля ўзаемадапамогі ці вырашэння праблемаў у сваёй мясцовасьці)
- Адкрыцьцё банкаўскіх рахункаў для абрачынных мэтаў
- Іншае

**Калі ласка, тэлефануйце ў справе арганізацыі акцыяў «НАШ АДКАЗ НА КРЫЗІС» свайму каардынатару, або Віталю 7635954 (для Менска), або Паўлу 5160861 (для рэгіёнаў)**



# СУСТАРШЫНЯ БХД ГЕОРГІЙ ДЗМІТРУК: ДЗЕЛЯ ВЫРАТАВАННЯ ЭКАНОМІКІ ПАТРЭБНЫЯ КАРДЫНАЛЬНЫЯ МЕРЫ



На думку сустаршыні аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя" **Георгія Дзмітрука**, меры, якія прымае ўрад дзеля мінімізацыі наступстваў эканамічнага крызісу, можна назваць усяго толькі кропельніцай у венах хворага на гангрэну.

"*Апошнім часам вельмі шмат гаворыцца пра золатавалютныя запасы ды крэдыты, якія знікаюць на вачах у эмацыянальных грамадзянаў. Карыстаючыся медыцынскай тэрміналогіяй, гэта ўсяго толькі кропельніца ў венах хворага на гангрэну*", - заявіў Георгій Дзмітрук у інтэрв'ю прэсавай службе "Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі".

"*Падобна на тое, што ўрад свядома стымулюе смяротнае захворванне. Без тэрміновай ампутацыі тут не абыйдзешся. Трэба неадкладна паскорыць скарачэнне дзяржаўнага апарату на 10% штомесяц, замарозіць фінансаванне амбітных праектаў (Беларуская АЭС, палацы спорту, аквапаркі і г.д.), увесці жорсткі рэжым эканоміі дзяржаўных сродкаў*", - лічыць Дзмітрук.

На думку сустаршыні БХД і прадпрымальніка Георгія Дзмітрука, эканоміку губіць адсутнасць палітычнай волі прызнаць сістэмны крызіс, адсутнасць выразнай антыкрызіснай праграмы, паталагічная гігантаманія ў форме завышэння ўласных эканамічных магчымасцяў.

*Падрыхтаваў Генадзь Шарыпкін*



# БХД АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ ВОЛІ

**25 сакавіка сцягі "Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі" былі самымі заўважнымі на святкаванні Дня Незалежнасці Беларусі.**





Ля Акадэміі навук луналі бел-чырвона-белыя сцягі, штандары Еўрасаюзу і сцягі БХД.

Спачатку планавалася, што ад Акадэміі навук удзельнікі святкавання накіруюцца па праспекту Незалежнасці на Кастрычніцкую плошчу. Улады Мінску не санкцыянавалі шэсце па гэтаму маршруту. Але і на Бангалор людзі не пайшлі.

Зазначым, што пры такой колькасці спецтэхнікі і спецсілаў, можна толькі здзіўляцца, што каля трох тысячаў людзей прыйшло святкаваць 91-ю гадавіну Дня Незалежнасці.

Улады так і не вырашыліся на ўжыванне сілы, а ўдзельнікі мітынгу сталі ланцугом уздоўж праспекту Незалежнасці. І гэта было эфектна. Увесь свет абыйшлі фота вогнішча, дзе спалілі сімвалы цяперашняй улады.



# Д В У

Дарагія

Прапануем Вашай увазе новую рубрыку “Крыніцы” – ДВУБОЙ. Кожны нумар газ

палітыкі і грамадзкага жыцьця: змаганьне з алькагалізмам і абортамі,

Пераможцу вы

Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон - +8

шту: 220123, г. Мінск, а/с 324. (Проста пазна

Пераможца ДВУБОЮ па выніках Вашага

Таксама прымаюцца за

Першая нашая тэма – **ЗМАГАНЬНЕ З АЛЬКАГАЛІЗМАМ**. СУСТРАКАЙЦЕ – прыхільн

**АНІД СКАРАБАГАТЫ** і кіраўнік моладзевай супольнасьці “Ініцыятыва”, с



## Лявон Скарабагаты:
### «Аб’яўляю байкот!»

За апошнія 15 год насельніцтва Беларусі скарацілася на 600 тысяч чалавек. Нараджальнасць змяншаецца, колькасць смерцяў павялічваецца. Некаторыя эксперты кажуць, што Беларусь прайшла кропку “невяртання”, і колькасць жыхароў павялічыць немагчыма.

Беларусь знаходзіцца у цяжкім маральна-этычным стане, але змяніць сітуацыю магчыма: трэба перамагчы галоўную прычыну заняпаду – п’янства і алкагалізм. І вырашаць праблему трэба радыкальна, касметычныя метады тут не дапамогуць!

Па першае, трэба адказаць на пытаннне: якім сілам выгодна спойванне людзей і якім чынам можна гэтым сілам супрацьстаяць?

Для радыкальнага рашэння праблемы я прапаную адчыніць спецыяльны антыалкагольны фонд, які б папаўняўся за кошт даходу, падаткаў, а таксама рэкламы алкагольнай і тытуневай падукцыі, у тым ліку і піва. І грошы з яго накіроўваць на правядзенне антыалкагольных кампаній.

Канешне, я разумею, што проста у адзін дзень забараніць продаж алкаголю немагчыма, таму мне здаецца напачатку трэба забараніць продаж алкаголю у агульных залях, а пасля продаж увогуле.

Я аб’яўляю байкот піву, гарэлцы, віну і увогуле усяму, што утрымлівае алкаголь!

Я упэўнены, што у любой справе трэба пачынаць з сябе, таму я распачынаю антыалкагольную кампанію у сваім раёне.

Я ведаю, што калі беларус праспіцца, то на цвярозую галаву ён будзе думаць па-іншаму. Тады мы пераможам, і Беларусь будзе квітнець! Цвярозасць – гэта норма жыцця для паспяховага чалавека, які мае мэту, які паважае сябе і сваіх бліжніх.

# Б О Й

*Падрыхтавала Ірына Губская*

чытачы!
эты два лідэры БХД будуць спрачацца па найбольш вострых і важных пытаньнях
стасункі з ЕС, Расеяй, NATO, будаўніцтва АЭС, сьмяротнае пакараньне.
ызначыце Вы!
8 029 516 08 61, sms, e-mail: bchd.info@gmail.com, праз сайт: www.bchd.info, ці по-
чце прозвішча – за каго аддаеце Ваш голас).
галасаваньня выходзіць у наступны тур!
яўкі на ўдзел у ДВУБОІ.
ік ЗАБАРАНЯЛЬНЫХ МЕРАЎ, адзін зь лідэраў Менскага БХД, бацька 7 дзяцей - **ЛЕ-**
сябра Нацыянальнай Рады, прыхільнік ЗААХВОЧВАНЬНЯ **АНДРУСЬ КІМ**.

## Андрэй Кім:
### «Трэба стварыць альтэрнатыву»



Лявон, а я лічу, што праблему можна вырашыць па іншаму.

Для пачатку трэба адказаць на пытанне: чаму чалавек п'е? Я лічу, што чалавек не можа займаца тым, чым ён хоча, прадпрымальнікаў заціскаюць падаткамі і пошлінамі, маладых спецыялістаў па размеркаванні адпраўляюць працаваць у вескі… Чалавек не можа самарэалізавацца.

Да таго ж алкаголь каштуе значна танней, чым усе астатняе. Прывяду просты прыклад. Вырашыў хлапец схадзіць у кіно, запрасіў дзяўчыну. На двух білет каштуе тысяч 18. Дзве бутэлькі піва можна набыць танней чым за 5 тысяч… Відавочна, алкагольныя напоі у Беларусі занадта танныя, да таго ж неякасныя. Я лічу, што трэба падымаць кошт на алкагольныя напоі, паляпшаючы адначасова іх якасць.

Таксама трэба зрабіць добрую інфармацыйную кампанію, і адна маленькая ініцыятыва праблему не вырашыць, трэба моцнае фінансаванне. Я лічу, што сенняшнюю рэкламу на тэлебачанні недапушчальнай, па-моему "казка пра трох мядзведзяў" ці штосцьь такое толькі падрываюць маральны стан грамадства. Трэба рэклямаваць здаровы лад жыцця, а не піва і цыгарэты, не кажучы пра нешта большае…

Чаму няма сэнсу адразу забараніць продаж алкаголю? Тут усе проста. Мне было лягчэй знайсці расейскія лічбы, але я упэўнены, што яны не надта адроніваюцца ад беларускіх. Па іх дадзеных, заабароненыя наркотыкі хоць раз у жыцці каштавалі 80% школьнікаў, а дазволены для продажу алкаголь – 88%. Мы змагаемся за зніжэнне ужывання на 8% ці за здаровую краіну? І яшчэ: калі алкаголь прадаецца афіцыйна, то можна спадзявацца хаця б на дзяржаўны кантроль якасці, а калі продаж будзе з-пад палы, як зараз прадаюцца наркотыкі, то вядома якой якасці будуць напоі. Ці хочам мы сення, каб квітнела мафія за кошт нашых бацькоў, сяброў і нас? Людзі усе роўна будуць піць і заўседы знойдуцца людзі, гатовыя "дапамагчы".

Іншая справа, калі у чалавека будзе альтэрнатыва: сям'я, дабрабыт, культурна праведзены час... Калі на кватэру не трэба працаваць усе жыцце, а на выходных вольна можна адпачыць усей сям'ей. Не пойдзе тады чалавек у бліжэйшую краму за новай бутэлькай гарэлкі, не будзе увечары на Нямізе сотні маладых людзей з півам у руках кожны…

Трэба змяніць свядомасць кожнага беларуса дзеля сенняшняга дня, дзеля будучыні!

# БХД ПАДАЛА Ў МІНЮСТ ДАКУМЕНТЫ НА РЭГІСТРАЦЫЮ



**12 сакавіка а 14-й гадзіне кіраўніцтва аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя" перадалі ў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь дакументы на рэгістрацыю партыі.**

Па словах аднаго з заснавальнікаў БХД Паўла Севярынца, актывісты спадзяюцца атрымаць адказ да канца так званага паўгадавога еўрапейскага выпрабаваўчага тэрміну для Беларусі.

- Дакументы ўсе сабраныя, прыведзеныя да поўнай адпаведнасці з патрабаваннем заканадаўства. Сёння мы маем намер перадаць іх у Міністэрства юстыцыі і спадзяемся, што разгледжаны яны будуць да прыняцця рашэньня адносна працягу альбо непрацягу дазволу на ўезд ў Еўропу шэрагу беларускіх чыноўнікаў, што мае адбыцца ў красавіку, – заявіў Рацыі Павал Севярынец.

На думку Севярынца, рэгістрацыя ці нерэгістрацыя хрысціянска-дэмакратычнай партыі і стане паказнікам таго, ці сапраўды беларускія ўлады сёння гатовыя да лібералізацыі, пра якую ў апошні час вельмі часта ідзе гаворка ў дыялогу з Еўропай.

*Паводле http://racyja.com/*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ РАДА БХД ПРАВЯЛА СВАЁ ПЕРШАЕ ПАСЕДЖАННЕ



**У суботу, 21 сакавіка, у Мінску прайшло першае паседжанне Нацыянальнай Рады "Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі". Абраны склад Управы БХД, разгледжаныя іншыя пытанні.**

Ва Ўправу БХД увайшло 12 чалавек. Таксама былі абмеркаваныя пытанні правядзяння кампаніяў "Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі". Вырашана, што кожны месяц па ўсёй краіне у прызначаны дзень будуць праводзіцца акцыі па адной з кампаніяў. У красавіку тэмай акцыяў стане эканоміка, у траўні – кампанія "Моцная сям'я – моцная Беларусь". Нацыянальная Рада таксама разгледзела этычныя прынцыпы працы сяброў "Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі".

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі»*

# КІРАЎНІЦТВА БХД СУСТРЭЛАСЯ З ДЭПУТАТАМІ БУНДЭСТАГУ

German Bundestag



**Сустаршыні аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя" Павал Севярынец і Віталь Рымашэўскі сустрэліся з дэпутатамі Бундэстагу – наместнікам кіраўніка фрацыі ХДС/ХСС Андрэасам Шакенхофам і парламентаром Карлам Георгам Вельманам.**

На сустрэчы было абмеркавана далучэнне Беларусі да праграмы "Усходняе партнёрства", пытанні дэмакратызацыі і незалежнасці Беларусі, міжпартыйнага супрацоўніцтва.

Дэпутаты Бундэстагу заявілі, што чакаюць ад афіцыйнага Мінску захавання правоў чалавека, Яны падтрымалі імкненне БХД далучыцца да Еўрапейскай Народнай партыі. Дэпутаты заявілі, што будуць уважліва сачыць за працэсам рэгітсрацыі БХД Міністэрствам юстыцыі.

"Нямецкія хрысьціянскія дэмакраты – кіруючая партыя Нямеччыны – вельмі важны і ўплывовы партнёр, - сказаў па выніках сустрэчы сустаршыня БХД Павал Севярынец. – Супраца з імі дае дадатковыя шанцы на дэмакратычныя змены і захаванне незалежнасці Беларусі".

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі»*

# БХД ПРАЦЯГВАЕ БАРАЦЬБУ З ПРАПАГАНДАЙ МАГІІ І АКУЛЬТЫЗМУ

**9 сакавіка Генеральнаму пракурору накіравана заява наконт дзейнасці калдуноў і гадалак, якая зараз камуфлюецца пад іншымі шыльдамі.**

У заяве нагадваецца, што 13 верасня 2008 года Адміністрацыяй прэзідэнта быў зацверджаны законапраект “Аб унясенні зменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях рэкламы”, якім прадугледжваецца, у прыватнасці, забарона на рэкламу дзейнасці калдуноў і гадалак, а таксама сэксуальных паслуг.

“Але пасля ўступлення папраў у сілу гадалкі і распусніцы як зацягвалі, так і зацягваюць даверлівых грамадзян нашай краіны. Яны робяць сваю чорную справу ўжо пад іншымі шыльдамі. Замест “майстроў Таро” і астролагаў яны называюць сябе “Жаночая лінія” і “Размова аб усім”, а прапануемыя імі паслугі засталіся тыя ж самыя. Гэта легка заўважыць параўнаўшы нумары тэлефонаў у рэкламных абвестках да ўступлення законапраекта “Аб унясенні зменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях рэкламы” і пасля яго прыняцця”, - гаворыцца ў заяве.

У тэксце дакумента прыводзяцца ўсе прыклады рэкламных абвестак да змены назвы фірмы і пасля. Тэлефоны, насамрэч, тыя ж самыя.

Аргкамітэт па стварэнні партыі “Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя” просіць генпракурора звярнуць “увагу на парушэнне законапраекта “Аб унясенні зменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях рэкламы”, спыніць дзейнасць дадзенных арганізацыі і пазбавіць іх ліцэнзіі”.

Акрамя таго, прапануецца “не спыняцца на дасягнутым і выключыць з Дзяржаўнага класіфікатара відаў дзейнасці такі від як “Дзейнасць экстрасэнсаў і гадалак”, каб у аматараў д’ябальшчыны зніклі ўсякія законныя абгрунтаванні для іхнай дзейнасці”.

*Прэсавая служба аргкамітэту па стварэнні Беларускай хрысціянскай Дэмакратыі*



# КАМПАНІЯ ЦІСКУ НА БХД ПА ЎСЁЙ КРАІНЕ

**Заснавальнікі Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі вымушаны весьці размовы з супрацоўнікамі спэцслужбаў, прадстаўнікамі ідэалягічных аддзелаў райвыканкамаў і адміністрацыі прадпрыемстваў. Падчас такіх гутарак некаторым прапаноўваюць звольніцца з працы на ўласнае жаданьне. Сустаршыні аргкамітэту дзеля стварэньня БХД лічаць, што ўлады напалоханыя колькасьцю людзей, якія маюць ахвоту стаць сябрамі партыі.**



Больш за чатыры сотні чалавек, якія падпісаліся пад дакумэнтамі на рэгістрацыю Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, мелі тэлефонныя размовы з прадстаўнікамі КДБ ці з кіраўнікамі аддзелаў ідэалёгіі. У некаторых выпадках у людзей папросту ўдакладнялі, ці сапраўды яны ставілі свой подпіс.

28 лютага адбыўся ўстаноўчы зьезд БХД. 12 сакавіка сустаршыні аргкамітэту перадалі ў Міністэрства юстыцыі дакумэнты на рэгістрацыю партыі. Праз тыдзень пасьля таго, як сьпісы дэлегатаў зьезду і заснавальнікаў партыі трапілі ў міністэрства, пачаліся тэлефанаваньні падпісантам.

Кіра Чук працуе на магілёўскім заводзе імя Кірава. Да яе некалькі разоў падыходзіў намесьнік дырэктара, які адказвае за ідэалягічную працу.

“Гэта ж не гавораць публічна, гэта гавораць сам-насам. Я думаю, што папросту вельмі спалохаліся за сваё крэсла. Вось і ўсё. Кадэбэшнікі былі хаця б карэктныя. Хаця паставіліся таксама да гэтага так: “Навошта табе гэта трэба? Цяпер гэта будзе твой галаўны боль”.

Пры іншых абставінах я б, можа, і сышла. Але ж я цяпер не магу папросту сысьці. Я магу чаргу згубіць на кватэру. Дом будуецца. Дый у мяне ж крэдыт”.

На Гомельшчыне заснавальнікаў БХД выклікалі на размовы, але ня ўсіх пасьля гэтага звольнілі з працы.

Павал Наздра з Мазыра: “Па ўсіх сябрах ужо прайшліся. Мы ўжо два разы падавалі дакумэнты ў Мін’юст. Папросту сказалі, што ёсьць „указуха“ зьверху. Усе, хто падпісаўся ў якасьці заснавальнікаў БХД, мелі размовы з супрацоўнікамі КДБ. Але ж пасьля гэтых размоваў некаторыя страцілі, а некаторыя ня страцілі працу. Але ўсе стаяць у выніку на ўліку”.

Адна з падпісантак дакумэнтаў, Натальля Касьцюковіч зь Берасьця, лічыць, што ў спэцслужбаў ёсьць нейкі плян і да Берасьцейшчыны проста яшчэ не дайшлі інструкцыі наконт запалохваньня заснавальнікаў партыі.

“Я мяркую, што чарга да нас яшчэ не дайшла, што ўсё па абласьцях робяць. Думаю, што ў іх яшчэ ёсьць два тыдні, так што яшчэ ўсё можа быць”.

Сустаршыня аргкамітэту дзеля стварэньня БХД Павал Севярынец : “Кампанія рэпрэсіяў, якая цяпер распачатая супраць заснавальнікаў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, пакуль носіць выразны лякальны характар. Дзесьці тэлефанаваньні вядуцца спакойна і мірна, згодна з заканадаўствам. Там, дзе прысутнічаюць асабліва імпэтныя супрацоўнікі КДБ або ідэалёгіі, там форменнае беззаконьне.

Людзей палохаюць, пагражаюць звольніць з працы, з вучобы, ставяць перад выбарам — праца альбо сяброўства ў БХД“.

Пад дакумэнтамі на рэгістрацыю БХД стаяць 1073 подпісы. Павал Севярынец не выключае таго, што ўлады рыхтуюць асобныя сьпіс з тых, хто адклікаў свой подпіс. Праз два тыдні чыноўнікі Міністэрства юстыцыі мусяць даць адказ наконт рэгістрацыі БХД.

*Паводле http://www.svaboda.org/*

*Матар’ялы паласы падрыхтавала Натальля Васілевіч*

## Курсы беларускай мовы

Курс беларускай мовы разьлічаны на тое, каб удасканаліць сваю мову, найперш гутарковую. Гэта цудоўны шанец пачаць размаўляць на родай мове для тых, хто даўно хоча, але саромеецца ці сумняецца ў дастатквым узроўні яе веданьня. Курс разьлічаны найперш на хрысьціянаў, а таксама на моладзь.

**Заняткі праходзяць па панядзелках на сябдзібе ТБМ (вул. Румянцава, 13), пачатак ў 18-30.і па сярэдах на сядзібе БНФ (вул. Машэрава,8) пачатак 18-30 Кантактныя тэлефоны: 8-029-8105001(Алена).**

## «Шоў Беларушчыны»

Гэта беларуская па форме, хрысьціянская па зьмесьце дынамічная віктарына для школьнікаў і навучэнцаў з геаграфічнымі, гістарычнымі, літаратурнымі, музычнымі, спартовымі пытаньнямі, музычнымі перапынкамі з беларускімі хрысьціянскімі хітамі. Віктарына можа праводзіцца ў любой навучальнай установе як пазакласны ўрок. Пераможцы віктарыны атрымліваюць цудоўныя прызы – кнігі і дыскі.

**Віктарыну можна замовіць па тэлефоне: 8-029-7653692 (Ірына).**

## Хрысьціянскі пісьменьніцкі клюб

Распачатае стварэньне літаратурнай суполкі Аб'яднаньне пісьменьнікаў хрысьціянаў "Дабравест" з мэтай аб'яднаньня літаратараў-хрысьціянаў дзеля творчага сумоўя ды арганізацыі творчых выступаў, беларускіх па форме, хрысьціянскіх па духу і зьмесьце.

**Наступная арганізацыйная сустрэча "Дабравесту" адбудзецца 11 красавіка ў 14.30 у памяшканні ПЭН цэнтру (вул. Залатая горка, д.2) Кантактны тэлефон: 8-029-200-34-36 (Зьміцер).**

## Курсы гісторыі хрысьціянства на Беларусі

Гэта ўнікальны пазаканфесійны курс, разьлічаны на хрысьціянаў розных канфесіяў, які разглядае гісторыю хрысьціянства на Беларусі ў кантэксьце духоўных рухаў, гэта значыць як Дух Гасподні дзейнічаў у сваёй Царкве на нашай зямлі, не зважаючы на Яе канфесійныя межы.

**Заняткі паводзяцца па панядзелках на сядзібе ТБМ (вул. Румянцава, 13), пачатак ў 18-30 і па серадах на сядзібе БНФ (вул. Машэрава,8) пачатак 18-30 Кантактныя тэлефоны: 8-029-8105001(Алена).**



## «Беларускі хрысьціянскі хіт»

Аккурат да Вялікдзеня выходзіць чарговы дыск з серыі Беларускі хрысьціянскі хіт пад назвай "Хрыстос уваскрос" – чацвертая зборка найлепшых беларускамоўных хрысьціянскіх сьпеваў, гэтым разам прысьвечаных сьвяту Уваскрасення Хрыстовага. Адабраныя паводле строгіх крытэраў песьні прайшлі ратацыю ў хрысьціянскіх фокус-групах (адпаведна, праваслаўнай, каталіцкай, грэка-каталіцкай, баптысцкай, пяцідзесятніцкай, поўнаэвангельскай - і г.д.) - і вернікі самі вызначылі найлепшыя сьпевы. Найбольш хітовымі выканаўцамі слухачы прызналі гурты «Тэзаўрус», «Псальмяры», «DVA», «Небасхіл», «Кадаш». Сярод выканаўцаў – таксама Алеся Унукоўская, барды Андрэй Мельнікаў, Вальжына Цярэшчанка і Інэса Леаданская. Пачынаюцца ўсе дыскі «Беларускага Хрысьціянскага Хіта» гімнам «Магутны Божа»; завяршаецца – сьпеўнай малітвай «Ойча наш». Рыхтуюцца да выданьня таксама іншыя дыскі гэтай серыі , «Беларускі Хрысьціянскі Рок», «Бардаўскі Хрысьціянскі Хіт» і «Беларускі Літургічны Сьпеў», "Люблю Беларусь". Наконт усіх прапановаў на гэтыя складанкі, а таксама па замовы першых 3-х дыскаў можна зьвяртацца па тэлефонах: **8-029-861-62-28, 8-029-656-00-64 (Валянціна).**




## Лідэрскія курсы «Ды-джэяў Адраджэньня»

Праграма курсаў уключае тэст на 100 пытаньняў, двухгадзінныя тэарэтычныя сэмінары й 3 выпрабаваньні: камандная акцыя, "Шоў Беларушчыны" і "высадка з парашутам". Як ператварыць звычайнага беларуса ў палымянага дзеяча і прамоўцу? Як, не падвышаючы голасу, падкрэсьліць сказанае? Як правільна фармуляваць пытаньні, каб зацікавіць людзей? Куды глядзіць чалавек, калі хлусіць, а куды, калі кажа праўду? Вядучая – Наталля Васілевіч.

**Кантактныя тэлефоны: 8-029-7653692 (Ірына).**

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр выдавецкіх ініцыятыў
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты; Наклад: 299 ас.
Аб'ём: 8 паласы А4

Рэдактар: Павал Севярынец тэл. +375 29 516 08 61
Падпісана ў друк 16 красакавіка 2009
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ.